МІЖНАРОДНАЕ ГРАМАДСКАЕ АБ'ЯДНАННЕ "ЗГУРТАВАННЕ БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ "БАЦЬКАЎШЧЫНА"

№7 (123)
ліпень 2012

# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

## У НУМАРЫ:

### У ВІЛЬНІ АДЗНАЧЫЛІ 100-ГОДДЗЕ БЕЛАРУСКАГА ПІСЬМЕННІКА АЛЯКСЕЯ АНІШЧЫКА

У Вільні ў Доме нацыянальных згуртаванняў 21 ліпеня адбылася вечарына памяці, прысвечаная 100-годдзю пісьменніка, беларускага віленскага грамадскага дзеяча Аляксея Анішчыка.

*Працяг на стар. 3*

### БЕЛАРУСЫ ВІЛЬНІ Ў БЕЛАРУСАЎ ГДАНЬСКА – НЕПЕРАРВАНАЯ ТРАДЫЦЫЯ

Сябры Таварыства беларускай культуры ў Літве ў ліпені выправіліся ў сваю традыцыйную вандроўку па мясцінах, звязаных з беларускім жыццём, якая гэтым разам стала адраджэннем старых традыцыйных сувязяў паміж беларусамі Вільні і Гданьска.

*Працяг на стар. 4*

### БЕЛАРУСКАЕ КУПАЛЛЕ НА ТОМСКАЙ ЗЯМЛІ

У межах V Міжнароднага фестывалю беларускай культуры "Радзіма мая – Беларусь", які праводзіўся на Томскай зямлі, беларусы Томска, Алтая, Новасібірска ўзялі ўдзел у абрадавым свяце Купалы.

*Працяг на стар. 6*

### КУПАЛЬСКАЯ НОЧ НА БЕРАЗЕ АНГАРЫ

17 гадоў запар Рэгіянальная грамадская арганізацыя "Іркуцкае таварыства Беларускай культуры імя Я.Д. Чэрскага" (ІТБК) ладзіць у самую кароткую ноч свята Купалле.

*Працяг на стар. 7*

НАВІНЫ МГА "ЗБС "БАЦЬКАЎШЧЫНА"

## ПРАБЛЕМЫ БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА АБМЕРКАВАЛІ Ў НАЦЫЯНАЛЬНАЙ БІБЛІЯТЭЦЫ

У галерэі "Лабірынт" Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі 26 чэрвеня адбылося ўрачыстае адкрыццё кніжна-дакументальнай выставы "У сэрцы з Радзімай", падрыхтаванай Нацыянальнай бібліятэкай Беларусі разам з Дзяржаўным музеем гісторыі беларускай літаратуры.

На выставе было прадстаўлена каля 70 кніг па гісторыі стварэння беларускіх дыяспар, творы пісьменнікаў і паэтаў беларускага замежжа. Значную частку экспазіцыі складаюць кнігі серыі "Бібліятэка Бацькаўшчыны".

З вітальным словам выступіла дырэктар Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры Лідзія Макарэвіч, якая адзначыла, што ў фондах музея ёсць болей за 1000 экспанатаў, звязаных з дзейнасцю беларускіх дыяспараў у свеце, а таксама – першы намеснік дырэктара Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі па абслугоўванні карыстальнікаў і ідэалогіі Алена Далгаполава, якая выказала спадзяванне, што гэта толькі пачатак дзейнасці бібліятэкі ў кірунку пашырэння ведаў аб беларускім замежжы.



*Выступае прафесар Адам Мальдзіс*

Прафесар Адам Мальдзіс гаварыў пра планы Інстытута культуры Беларусі, сярод якіх – семінар беларускіх паэтаў з блізкага замежжа, які мае адбыцца ўвосень. Спадар Мальдзіс адзначыў, што паводле розных ацэнак, за мяжою Радзімы пражывае 2,5–3,5 мільёны беларусаў. Для больш цесных узаемасувязяў паміж імі распрацоўваецца праект "Беларусы замежжа", які будзе мець свой сайт. Плануецца і выданне энцыклапедычнага даведніка, у які ўвойдзе апісанне 1610 персаналіяў беларускага замежжа.



*Госці імпрэзы*

Галоўны дырэктар міжнароднага радыё "Беларусь" Навум Гальпяровіч расказаў пра ролю радыё ва ўмацаванні сувязяў паміж беларусамі, што жывуць за мяжой, і іх Радзімай. Дзякуючы радыё, якое цяпер вяшчае на сямі мовах, яны атрымліваюць навіны з Беларусі. Спадар Гальпяровіч падхапіў тэму, закранутую Адамам Мальдзісам, які заўважыў, што ў замежжы нярэдка вельмі дбайна захоўваюцца нашыя традыцыі. У сувязі з гэтым Навум Гальпяровіч расказаў пра Алега Рудакова – старшыню Іркуцкага Таварыства беларускай культуры імя Яна Чэрскага, які ладзіць экспедыцыі па беларускіх вёсачках Сібіры, дзе збірае аўтэнтычныя беларускія песні, сярод якіх часта трапляюцца ўнікальныя матэрыялы. Спадар Навум адзначыў, што мае гэтыя запісы, і выказаў пажаданне, каб беларускія дзеячы культуры і гісторыі карысталіся гэтым набыткам.

Акрамя таго, Навум Гальпяровіч паведаміў, што на радыё "Беларусь" ➲

працуе праект "Урокі беларускай мовы" на англійскай, нямецкай і польскай мовах. Ад пачатку праект існаваў толькі на англійскай мове і не было ясна, ці будзе ён цікавы слухачам. Аднак выявілася, што праект запатрабаваны не толькі на англійскай, але і на іншых мовах.

Прадстаўніца Інстытута культуры Беларусі Галіна Івуць нагадала, што пры Скарынаўскім цэнтры цягам 15 гадоў існавала музейная экспазіцыя "Беларусы ў свеце", якая назбірала больш за 800 экспанатаў, сярод якіх былі кнігі, прадметы, звязаныя з беларускімі дзеячамі ў эміграцыі, карціны беларусаў замежжа. Галіна Фёдараўна выказала шкадаванне, што экспазіцыя не захавалася, і спадзяванне, што яе хаця б нейк атрымаецца аднавіць.

Старшыня Таварыства "Беларусь – Бельгія" Тамара Антановіч асвятліла праблему, якая мусіць занепакоіць не толькі бельгійскіх, але і ўсіх беларусаў, бо датычыць нашай агульнай культурнай спадчыны. Рэч у тым, што ў Бельгіі знаходзіцца магіла слыннага беларускага кампазітара Міколы Равенскага, дзе яму стаіць помнік, выкананы вядомым беларускім скульптарам Міхасём Наўмовічам, які пасля вайны жыў у Францыі. Каб магілу не ліквідавалі, за адпаведны тэрмін трэба плаціць пэўныя грошы – у Бельгіі гэта агульная практыка. Пакуль патрэбная сума ўнесеная, але невядома, што будзе ў будучыні. Людзей, заангажаваных у беларускую культуру і прытым здольных дапамагчы матэрыяльна, не так і шмат, і, на жаль, іх робіцца ўсё менш, бо многія ўжо ў паважным веку. Цяпер беларусы Бельгіі робяць захады, каб магілу і помнік Міколу Равенскаму зрабілі нацыянальным помнікам. Але дамагчыся гэтага вельмі нялёгка, і таму Тамара Антановіч заклікала дапамагаць у вырашэнні гэтай праблемы ўсіх неабыякавых.

Аўтар шэрагу кніг і публікацый пра беларусаў замежжа, сябра Рады МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" Наталля Гардзіенка, якая займаецца даследаваннем беларускай эміграцыі каля 10 гадоў, у сваім выступе адзначыла, што ў Беларусі праблема гэтая вывучаецца вельмі слаба. Спадарыня Наталля заўважыла, што ў іншых краінах існуюць адпаведныя ўстановы для даследаванняў нацыянальных дзеячаў за межамі краіны, у Беларусі ж гэтая праблема знаходзіцца па-за дзяржаўнай увагай. На сёння няма нават прыстойнага спісу беларускіх суполак за мяжой – над ім толькі цяпер распачалася праца. Наталля Гардзіенка лічыць, што пытаннямі вывучэння дзейнасці дыяспараў трэба займацца на больш інстытуцыйным узроўні. "Радуе, што робяцца такія выставы, – падкрэсліла спадарыня Наталля. – Хацелася б, каб часцей праводзіліся выставы, круглыя сталы, абмеркаванні па такіх тэмах".

Пісьменніца і літаратуразнаўца Лідзія Савік пагадзілася з тым, што ў нас цяпер усё трымаецца на энтузіястах, у той час як у іншых краінах наладжаная цесная сувязь з суайчыннікамі за мяжой на ўсіх узроўнях. Спадарыня Лідзія выказала шкадаванне, што многія беларускія дзеячы замежжа ўжо не ў стане прыехаць у Беларусь, бо ўжо далёка не маладыя, і таму асабліва важна падтрымліваць з імі сувязь. Напрыканцы прамовы спадарыня Савік заклікала думаць, як захаваць беларускасць у Беларусі.

Падчас цырымоніі адкрыцця выставы добры настрой гасцям дапамагала ствараць аркестровая група ансамбля "Гаманіна", якая па жаданні публікі завяршыла вечар танцам "Кракавяк".

*Інфармацыйны цэнтр*
*МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

*Фота - nlb.by*

## 30-я Сустрэча беларусаў Паўночнай Амерыкі

30-я Сустрэча беларусаў Паўночнай Амерыкі адбудзецца 1-3 верасня 2012 года ў Таронта ў Беларускім грамадска-рэлігійным цэнтры (524 St. Clarens Ave. M6H 1V2).

Тэма Сустрэчы – "Праблемы сучаснай беларускай эміграцыі".

**Праграма:**

*1 верасня*
13.00 – Адкрыццё Сустрэчы
14.00 – Абед
15.00 – Даклады і дыскусіі па тэмах "Рынак працы", "Захаванне і падтрымка беларускай культуры на эміграцыі", "Сям'я і эміграцыя"
19.00 – Святочная вечарына

*2 верасня*
08.00 – Богаслужба
10.00 – Пілігрымка да Беларускага Памятнага Крыжа, малебен, прыняцце заключнага камюніке Сустрэчы, прэзентацыя кніг беларускай эміграцыі, пікнік у мемарыяльным парку
19.00 – Вячоркі з гуртом "Яваровы людзі"

*3 верасня*
09.00 – Сняданак
10.00 – Закрыццё Сустрэчы і ад'езд

**Кошт квіткоў:**

На абедзве вечарыны – $80 на адну асобу, $150 для сям'і з 2 чалавек.

На асобную вечарыну – $45 на адну асобу, $80 для сям'і з 2 чалавек.

**Кантакты:**

416-444-0838 Валянціна Шаўчэнка
416-503-9527 Віялета Кавалёва
647-893-2134 Надзея Дробіна
347-858-5335 Ганна Сурмач

## Фестываль AD.NAK! – за павышэнне якасці камунікацыі

Цырымонія ўзнагароджання Трэцяга фестывалю беларускамоўнай рэкламы і камунікацыі AD.NAK!, які ладзіць грамадская культурніцкая кампанія "Будзьма беларусамі!", прайшла ў Мінску 5 ліпеня.

На фестываль было пададзена больш за 300 работ, найлепшыя з іх атрымалі прызавыя месцы (6 першых, 18 другіх і 27 трэціх). Гран-пры атрымалі толькі дзве працы. Са спісам пераможцаў і прызёраў конкурснай часткі фестывалю можна пазнаёміцца на сайце adnak.by.

"Узровень падачы работ удзельнікамі фестывалю як на AD.NAK!, так і на іншых фестывалях постсавецкай прасторы пакуль далёкі ад сусветных аналагаў. Удзельнікі фестывалю робяць вельмі цікавыя рэчы, але данесці ідэю камунікацыі, якая ставілася замоўцамі, атрымліваецца не ва ўсіх", – адзначыў кіраўнік рэсурсу Marketing.by, суарганізатара Фестывалю AD.NAK!, Сяргей Скараход.

Сітуацыя з беларускамоўнай рэкламай цалкам дублюе агульныя праблемы беларускага маркетынгу.

"Вынікі сёлетняга фестывалю дэманструюць стан рынку рэкламы ў Беларусі за апошні год, і беларускамоўная рэклама – частка гэтага рынку. Агульныя тэндэнцыі па розных прычынах – на зніжэнне колькасці і якасці рэкламнага прадукту. AD.NAK! сёлета сабраў вялікую колькасць прац. Аднак іх якасць ніжэйшая за папярэднія гады. Станоўчы момант – назіраецца імкненне рэкламістаў усё больш ствараць на беларускай мове", – адзначыла Ніна Шыдлоўская, каардынатар грамадскай культурніцкай кампаніі "Будзьма беларусамі!".

*Паводле adnak.by*

# У Вільні адзначылі 100-годдзе беларускага пісьменніка Аляксея Анішчыка

У Вільні ў Доме нацыянальных згуртаванняў 21 ліпеня адбылася вечарына памяці, прысвечаная 100-годдзю былога вязня ГУЛАГу, пісьменніка, беларускага віленскага грамадскага дзеяча Аляксея Анішчыка (літаратурны псеўданім Андрэй Чэмер). Вечарына была арганізаваная Віленскім беларускім таварыствам палітычных вязняў і ссыльных, якое шмат гадоў узначальваў спадар Анішчык.

Перад пачаткам імпрэзы адбылася памінальная малітва ў Свята-Еўфрасінеўскай царкве на віленскіх праваслаўных могілках, якую правёў а. Уладзімір Рынкевіч. Да магілы Аляксея Анішчыка былі ўскладзеныя кветкі і вянок з бел-чырвона-белай стужкай, былі запаленыя знічы.

У вечарыне ўзяла ўдзел удава спадара Аляксея Алена Ксавераўна Анішчык, цяперашні старшыня Віленскага беларускага таварыства палітвязняў Валянцін Стэх ды іншыя беларусы-віленчукі, а таксама каардынатарка кампаніі "Пакаянне" БХД Валерыя Чарнаморцава. Успамінамі пра юбіляра падзяліліся сакратар газеты віленскіх беларусаў "Рунь" Павал Саўчанка і дачка вядомага беларускага выдаўца, кнігара, былога вязня ГУЛАГу Станіслава Станкевіча Міраслава. А ў перапынках паміж расповедамі гучаў дуэт фартэпіяна і скрыпкі, на якой добра граў сам Аляксей Анішчык. Была арганізаваная выстава кнігаў Анішчыка, які пісаў і выдаваў свае творы пад псеўданімам Андрэй Чэмер.

"Аляксей Сцяпанавіч заўсёды быў вельмі далікатным, тактоўным, інтэлігентным чалавекам. Ён быў цалкам адданы беларускай справе, быў чуллівым да несправядлівасці. Нягледзячы на ўсе выпрабаванні, што выпалі на яго лёс, на тую жорсткую машыну ГУЛАГу, якую яму давялося прайсці, спадар Аляксей здолеў захаваць глыбокую чалавечнасць і не апусціцца да ўзроўню сваіх катаў. Хацелася б, каб пра нашага выбітнага дзеяча памяталі і праз 100 гадоў", – распавёў у інтэрв'ю для сайта кампаніі "Пакаянне" Валянцін Стэх.



*Ля магілы Аляксея Анішчыка*

Аляксей Сцяпанавіч АНІШЧЫК (19 ліпеня 1912, хут. Мондзіна Навагрудскага павету Менскай губерні, цяпер Навагрудскі раён Гродзенскай вобласці — 31 сакавіка 2007 г., Вільня; псеўданімы: Андрэй Чэмер, А. Шпак) — мемуарыст, педагог, журналіст, грамадскі дзеяч.

*Паводле represii-by.info*

# У ізраільскім Ашдодзе з'явілася плошча Янкі Купалы

Гарадской плошчы ў ізраільскім горадзе Ашдод прысвоілі імя Народнага паэта Беларусі.

Цяпер вырашаецца пытанне пра стварэнне на плошчы памятнага знака ў гонар Янкі Купалы.

Ашдод — шосты па велічыні горад Ізраіля. Тут пражывае каля 210 тысяч чалавек. Абшчына выхадцаў з Беларусі ў гэтым горадзе — адна з самых вялікіх у Ізраілі. Нагадаем, што сёлета Ашдод стаў горадам-пабрацімам Брэста.

*nn.by*

# Беларусы Масквы ўшанавалі Песняра

Беларусы Масквы сабраліся перад помнікам Янку Купалу 7 ліпеня, каб ушанаваць 130-я ўгодкі з дня нараджэння паэта. Акцыя адбылася дзякуючы грамадскай ініцыятыве.

Маскоўскія беларусы рознага веку прыйшлі, каб прачытаць вершы вялікага паэта.

Гучалі песні на словы Купалы, была разыграная невялікая тэатралізаваная сцэнка.

Перад гэтым беларускія арганізацыі Масквы ўсклалі да помніка Купалу кветкі.

*nn.by*

ВІНШАВАННІ

# Віншаванне сябраў Вялікай Рады

Маем гонар павіншаваць з Днём нараджэння сябраў Вялікай Рады Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына", якія нарадзіліся ў жніўні: Уладзіміра Арлова (Беларусь), Генадзя Бураўкіна (Беларусь), Марыю Міцкевіч (Беларусь), Алега Трусава (Беларусь), Аляксандра Надсана (Вялікабрытанія), Зміцера Ярашэўскага (Германія), Янку Запрудніка (ЗША), Таццяну Казак (Латвія), Рамана Вайніцкага (Літва), Віктара Чайчыца (Расія). Зычым цеплыні і святла на душы, дабрабыту ў жыцці і плёну ў працы!



7 жніўня юбілей святкуе сябра Вялікай Рады Адам Мальдзіс (Беларусь).

Шчыра віншуем шаноўнага юбіляра са святам, зычым добрага здароўя, прыемных навінаў, радасці і бадзёрасці духу!

*Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

# Віншуем Сяргея Бандарэнку!

Сябра Вялікай Рады Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына", старшыня рэгіянальнай нацыянальна-культурнай аўтаноміі "Беларусы Югры" Сяргей Бандарэнка атрымаў медаль Францыска Скарыны за вялікі асабісты ўклад ва ўмацаванне эканамічных і культурных сувязяў паміж Беларуссю і Расіяй. Гэтая ўзнагарода была яму ўручаная 29 чэрвеня.

Віншуем спадара Сяргея з узнагародай і зычым далейшага плёну ў працы, натхнення, штодзённай радасці ад жыцця, а таксама заўсёднай цеплыні і любові!

*Управа МГА «ЗБС «Бацькаўшчына»*

# БЕЛАРУСЫ ВІЛЬНІ Ў БЕЛАРУСАЎ ГДАНЬСКА – НЕПЕРАРВАНАЯ ТРАДЫЦЫЯ

Сябры Таварыства беларускай культуры ў Літве ў ліпені выправіліся ў сваю традыцыйную вандроўку па мясцінах, звязаных з беларускім жыццём, якая гэтым разам стала адраджэннем старых традыцыйных сувязяў паміж беларусамі Вільні і Гданьска. Так, мы прыбылі ў Гданьск, які яшчэ з міжваеннага часу быў месцам, у якое сплываліся беларусы з розных куткоў Польшчы і Савецкага Саюза. Першая беларуская арганізацыя ў Гданьску паўстала ў 1967 г. Самае цікавае і важнае: тут ёсць людзі, якія стаялі ля вытокаў першай беларускай арганізацыі ў Гданьску ў 1967 г. і цяпер з'яўляюцца ў ёй актыўнымі дзеячамі, што сведчыць аб неперарыванні тут беларускай традыцыі.

Калі ўвогуле казаць пра беларускае жыццё Гданьска, трэба адзначыць, што яно не працякае толькі ў гэтым горадзе. Побач знаходзяцца яшчэ два гарады: Сопат і Гдыня, якія функцыянуюць як адзінае цэлае. У міжваенны перыяд Гданьск і Сопат былі вольнымі гарадамі. Гэта спрыяла таму, што сюды вельмі часта прыязджалі актыўныя беларускія дзеячы. І цяпер у Гданьску і Сопаце віруе беларускае жыццё. На гэты момант тут дзейнічае Беларускае культурнае таварыства "Хатка", устаноўчы з'езд якога адбыўся ў Гданьску 23 траўня 1992 г. Яго ўзначальвае Алена Глагоўская, якая апекавалася намі ўвесь час нашага знаходжання ў Гданьску і ваколіцах. Яна была разам з намі ўсе дні і пазнаёміла як з тутэйшым беларускім жыццём, так і з самімі гарадамі, іх гісторыяй, культурай, архітэктурай.

Але наша знаёмства з Гданьскам, Сопатам, Гдыняй распачалося з сустрэчы з тамтэйшымі беларусамі, з якімі мы сабраліся за сяброўскім сталом. Кожны, хто там прысутнічаў, – легенда беларускага руху ў Польшчы, чалавек з цікавым і непаўторным лёсам і з беларускімі сэрцам і душой.

З вялікім хваляваннем чакаў сустрэчы з намі народжаны віленчук Мацей Канапацкі, сын палкоўніка беларускага войска ў 1918-20 гг. Гасана Канапацкага, вядомага беларускага дзеяча на Віленшчыне, удзельніка "Беларускай хаткі" ў Вільні, старшыні бацькоўскага камітэта Віленскай беларускай гімназіі. Мацея Канапацкага, як і многіх дзеячаў, напаткаў лёс рэпатрыянта: давялося ў 1946 г. развітацца з дарагой яго сэрцу Вільняй і прысвяціць сваё жыццё служэнню Беларусі ў Польшчы. Ён актыўна супрацоўнічаў з газетай польскіх беларусаў "Ніва", быў журналістам беларускіх перадач на радыё Беласток. Спадарыня Алена адзначыла, што вельмі часта ў хаце Канапацкага збіраліся гданьскія беларусы, каб адзначыць свята 25 сакавіка. Напрыканцы сустрэчы Мацей Канапацкі кожнаму ахвочаму падпісаў сваю кнігу.



*Мацей Канапацкі падпісвае сваю кнігу*

Цікавым і насычаным было жыццё і другога ўдзельніка сяброўскай вячэры Уладыслава Страшэвіча. Яго жыццё вартае не аднаго дэтэктыўнага рамана. У часе вайны яго бацька Баляслаў Лапыр быў актыўным беларускім дзеячом. Аднойчы бацька паспрачаўся з немцам наконт лёсу Беларусі і ў выніку ўдарыў таго немца. За гэта, зразумела, нічога добрага быць не магло: маглі спаліць усё Глыбокае. Але, на шчасце, сярод немцаў аказаўся ў Баляслава добры сябар, які параіў ім уцякаць і накіраваў да свайго сябра на востраў Ругэ, дзе Лапыр і далей працягваў займацца аграноміяй.

Справа ўжо ішла да канца вайны. З таго вострава падводнымі лодкамі немцы пастаўлялі збожжа ў Кёнігсберг. І Баляслаў Лапыр павінен быў суправаджаць гэтае збожжа. Малы Уладыслаў, наслухаўшыся бацькавых аповедаў, вельмі захацеў таксама павандраваць у той падлодцы і таемна ў яе забраўся. І толькі тады, калі ўжо адплылі, паказаўся бацьку. І так здарылася, што лодку на таран узяло савецкае войска і камуністы паарыштоўвалі ўсіх немцаў. Бацьку Баляславу цудам удалося збегчы, а малы Уладыслаў трапіў да Саветаў. І тут ён пачаў з імі размаўляць па-свойму. Для савецкіх салдат гэта было вялікім здзіўленнем, і яны яго адразу прынялі за свайго і прызначылі сынам палка. У іх яму давялося працаваць перакладчыкам нямецкай мовы. Савецкая Армія паступова прасоўвалася на Захад і заняла той востраў Ругэ, дзе жыла яго сям'я. Камандаванне савецкімі войскамі вырашыла яго адправіць у Сувораўскае вучылішча. Уладыслаў папрасіў у іх магчымасці развітацца з сям'ёй, яму дазволілі. І падчас гэтай сустрэчы яму ўдалося збегчы ад савецкіх вайскоўцаў.

Увосень 1945 года сям'я Лапыраў вырашыла вярнуцца на радзіму, перадусім наслухаўшыся савецкай прапаганды, якая гарантавала ім, што з імі нічога не будзе. Але ўжо ў Шчэціне Баляслаў Лапыр сказаў: "Ведаю, куды нас вязуць…" Іх прывезлі ў Ваўкавыск і змясцілі на спецыяльна агароджанай тэрыторыі. Хоць была позняя восень, людзей трымалі пад адкрытым небам, не было нават баракаў. І толькі дзякуючы таму, што ў Лапыраў была вялікая сям'я, ім дасталася зямлянка. Ім удалося збегчы з таго лагера, і яны пасяліліся ў Ваўкавыску, дзе бацька ўладкаваўся на працу. Але аднойчы Баляслава Лапыра забралі, і сям'я яго больш ніколі не бачыла. Потым яны з маці вярнуліся ў Глыбокае і афармілі дакументы на рэпатрыяцыю ў Польшчу. Там і змянілі прозвішча на Страшэвічы (дзявочае прозвішча маці).

У размове з намі Уладыслаў Страшэвіч зазначыў: "Гэта сумная справа – у Беларусі няма беларускай мовы. У Еўропе гэта нонсэнс, і такога больш нідзе няма, каб народ адрокся сваёй мовы".



*Ля каменя Купалу*

Вядомы журналіст "Нівы" Міхась Куптэль у многім раздзяляў гэтую занепакоенасць. Разважаючы аб лёсе

➲

беларусаў, ён казаў, што свядомасць часам можа з'яўляцца праз адно, паўтара, ці нават два пакаленні. І магчыма, што праз пэўны час нешта зменіцца і ў Беларусі. Ён узгадаў, як яшчэ гадоў 30



На вуліцы Янкі Брыля

таму ўздымаў пытанне аб тым, каб на Беласточчыне шыльды былі напісаныя на польскай і беларускай мовах. Тады гэта ўяўлялася неверагодным, але сёння, напрыклад, у гміне Орля мы бачым такія шыльды. Але цяпер і ў спадара Міхася ўсё менш аптымізму. Разважаючы над лёсам выпускнікоў Коласаўскага ліцэя, ён казаў: "Яны ўсе павінны быць, ці хаця б большасць, свядомымі беларускімі дзеячамі. Але колькі іх такіх ёсць насамрэч? Дзе яны губляюцца пасля выпуску? Колькі сярод дзеячоў беларускай апазіцыі выпускнікоў ліцэя?"

На вячэры з намі прысутнічалі і бралі ў размове актыўны ўдзел сямейства Лепінаў (Чэслаў Лепін вучыўся разам з Адам Мальдзісам), Алесь Юзэфовіч (заснавальнік у 1967 г. у Гданьску беларускай арганізацыі), Ганна Сабэцкая (сяброўка Янкі Брыля, перакладчыца яго твораў на польскую мову) і інш. Алесь Юзэфовіч у 1967 г. заснаваў беларускае таварыства ў Гданьску, і сёння, па словах Алены Глагоўскай, ён, бадай, адзіны, хто застаўся з яго ўдзельнікаў. Службы бяспекі актыўна адсочвалі ўсіх удзельнікаў таварыства. Як адзначыла спадарыня Алена, якая ў архівах бяспекі знайшла справы па беларускім таварыстве, былі заведзеныя асобныя папкі нават на ўдзельніц, якім было за 80 гадоў.

На другі дзень нашай вандроўкі спадарыня Алена Глагоўская пазнаёміла нас са славутасцямі трох узгаданых гарадоў, правяла сцяжынамі старога Гданьска і распавяла аб беларускіх слядах у гэтым горадзе.

У Гданьску знакавымі з'яўляюцца вуліца і камень Янкі Купалы, дзе пасаджаны явар і каліна, і вуліца Янкі Брыля. Яны сведчаць пра прысутнасць тут і актыўную дзейнасць беларусаў. Камень Янку Купалу паставіць дапамагла беларуская амбасада. Самае цікавае, што, праходзячыя побач з каменем, жыхары Гданьска ведаюць, хто такі Янка Купала. Калі аднойчы выпадкова запыталіся ў жанчыны, якая праходзіла міма, ці ведае яна, хто такі Янка Купала, тая не задумваючыся адказала, што гэта класік беларускай літаратуры.

І напрыканцы ад імя ўсіх удзельнікаў вандроўкі і Таварыства беларускай культуры ў Літве хацелася б выказаць падзяку Алене Глагоўскай за цёплы прыём, за той асабісты час, які яна на нас патрацiла, і за цікавыя аповеды аб гісторыі Гданьска і яго беларускіх днях.

Дзякуючы спадарыні Глагоўскай беларускасць – не толькі гісторыя, але і сучаснасць у гэтых трох гарадах. І яе руплівая праца па пошуку беларускіх каранёў і па іх захаванні і прапагандзе павінна служыць прыкладам для многіх беларусаў, а для нас з'яўляецца надзеяй на адраджэнне нашае Бацькаўшчыны.

*Паводле Алеся Адамковіча*

## ІМПРЭЗА Ў ТБК ЛІТВЫ

30 чэрвеня у сядзібе ТБК адбылася чарговая традыцыйная імпрэза. Гэтым разам гэта была лекцыя-дыскусія "Вавілонская вежа нумар X?"

З паведамленнем выступіў мастак і літаратар Алег Аблажэй. Ён заклікаў прысутных паразважаць пра лёс сучаснай цывілізацыі: куды яна рухаецца? Ці можа яе напаткаць лёс многіх папярэдніх – егіпецкай, рымскай? Што трэба рабіць і як сябе паводзіць перад абліччам шматлікіх праблемаў, як не разгубіцца і не страціць сябе? Якое месца Беларусі ў сучасным свеце, як на яе лёсе адбіваюцца глабальныя праблемы?

Аўтар пераконваў прысутных, што, каб не страціць сябе, трэба будаваць свой уласны, прыватны, незалежны свет, у якім можна карыстацца ўсімі даступнымі набыткамі сучаснай цывілізацыі, не паддаючыся яе спакусам і фальшывым каштоўнасцям. Тэмы актуальныя для кожнага неабыякавага чалавека, а сама гутарка вартая працягу.

*К. Барсучок*

## У МІНСКУ ЎШАНАВАЛІ ПАМЯЦЬ ЯНКІ КУПАЛЫ


Янка Купала

На вайсковых могілках у Мінску 28 чэрвеня ўшанавалі памяць Янкі Купалы, нашага слыннага песняра. Культурніцкая і пісьменніцкая грамадскасць узяла ўдзел у "Жальбінах" – гадавіне смерці народнага паэта Беларусі.

Больш за сто чалавек прыйшло на магілу творцы, каб ускласці кветкі і ўзгадаць жыццёвы і літаратурны шлях Івана Дамінікавіча Луцкевіча.

"Цяперашні год юбілейны як да нараджэння творцы, так і да яго трагічнай смерці, – нагадвае старшыня міжнароднага фонду Янкі Купалы Вячаслаў Рагойша. – 70 гадоў як не стала Янкі Купалы. І роўна за 15 год перад сваёй смерцю ён напісаў: "Я адплаціў народу чым моц мая магла, зваў з путаў на свабоду, зваў з цемры да святла". Калі ўдумацца ў гэтыя словы, то тут увесь Янка Купала. Сапраўды, што жадаць ад песняра больш, калі ён кліча, заве з путаў на свабоду".

28 чэрвеня 1942 года Янка Купала загінуў у Маскве пры нявысветленых абставінах — упаў у лесвічны пралёт гасцініцы "Масква" з дзясятага паверха.

Многія даследчыкі жыцця творцы не выключаюць таксама і магчымасць забойства паэта органамі НКВД, але сцвярджаць нешта канкрэтнае пакуль што не выпадае.

Штогод у гэты дзень на магілу паэта ў Мінску прыходзяць дзясяткі людзей, каб ушанаваць памяць народнага песняра.

*Паводле racyja.eu*

# БЕЛАРУСКАЕ КУПАЛЛЕ НА ТОМСКАЙ ЗЯМЛІ

У межах V Міжнароднага фестывалю беларускай культуры "Радзіма мая – Беларусь", які праводзіўся на Томскай зямлі, 22 чэрвеня беларусы Томска, Алтая, Новасібірска сталі ўдзельнікамі абрадавага свята Купалы ў славянскай сядзібе Лампсакова ў вёсцы Нова – Кускова Асінаўскага раёна Томскай вобласці.

Арганізатараў і ўдзельнікаў фестывалю ветліва з хлебам і мёдам сустрэлі "гаспадары" сядзібы. Гучала ў наш гонар "здравіца". па звычаю нашых продкаў усіх правялі праз "веснічкі", каб поспех і шчасце заўсёды нам спадарожнічалі. Шмат эмоцый выклікаў звычайны бярозавы венік, які ў гэты дзень валодаў асаблівай магічнай сілай прыносіць багацце для таго, каму пашанцавала быць ім "пабітым".

Калі ўся пачэсная кампанія ў нацыянальных беларускіх строях перайшла "мяжу" сядзібы, мы закружыліся ў адзіным карагодзе. Дарослыя, дзеці вялі карагод, аб'яднаныя атмасферай агульнай радасці і весялосці.

Людзі знаёміліся, абменьваліся ўражаннямі пра сустрэчу, а творчая група нацыянальна-культурнай аўтаноміі беларусаў г. Томска рыхтавала дэкарацыі для правядзення абраду.



У аснове сцэнара свята мы выкарыстоўвалі матэрыялы даследаванняў навукоўцаў-этнографаў Шэіна і Вінаградавай. Яны зафіксавалі абрадавыя купальскія песні і замовы беларусаў XIX стагоддзя. Этнографы аднадушна адзначаюць, што з усіх славянскіх народаў беларусы найбольш поўна змаглі захаваць традыцыі сваіх дзядоў.

Ганна Строганава эмацыйна і вельмі прыгожа выканала купальскія гімны, якімі нашы продкі-славяне славілі сваё боства - Купалу.

Ярка палала купальскае вогнішча, у якім спальвалі пудзіла Ярылы-Кастрамы, а незамужнія дзяўчаты скакалі праз вогненнае полымя, "выпрабоўваючы" сваё шчасце. "Плакальшчыцы" горка плакалі па старым сонцы, а ўсе ўдзельнікі прыносілі яму "трэбу" і частаваліся абрадавай выпечкай.

Не абышлося і без "абрадавых бясчынстваў" маладых людзей. Міхаіл Лобаў і Андрэй Петлін літаральна ўварваліся ў карагод дзяўчат, адабралі ў іх купальскую бярозку, упрыгожаную стужкамі і кветкамі. Ва ўяўленнях нашых продкаў галінкі і лісце купальскай бярозкі валодалі асаблівай урадлівай сілай, якая магла перамагчы любую хваробу. Кожны ўдзельнік атрымаў сваю "чароўную" галінку.

Панавала агульная весялосць, дзеці з задавальненнем бралі ўдзел у беларускіх гульнях: "Міхасік", "Гарэлкі". Дарослыя таксама не адмовіліся ад гарэзлівай гульні "Цяцёрка".

Апошнім этапам абраду была варажба: "На Івана Купалу дзеўка вянок у ваду кідала, на жаніха варажыла". Гэтыя радкі захаваліся ў абрадавай песні, якую выканала Ганна. Незамужнія дзяўчаты ўрачыста пайшлі да ракі, як калісьці гэта рабілі іх прабабкі. Усе вянкі лёгка паплылі па рацэ, ні адзін вяночак не патануў. А гэта значыць, наперадзе нас чакаюць беларускія вяселлі на Томскай зямлі! Значыць, не спыніцца "жывая" нітка народнай традыцыі.

*Паводле Л. Адаскевіч*

# "ХАТЫНСКАЯ АПОВЕСЦЬ" АДАМОВІЧА ВЫКЛІКАЛА ХВАЛЮ ЦІКАВАСЦІ Ў ВЯЛІКАБРЫТАНІІ

У выдавецтве Glagoslav Publications (Лондан) выйшла кніга Алеся Адамовіча "Хатынская аповесць". Гэта першая кніга беларускага аўтара, выпушчаная выдавецтвам, што спецыялізуецца на выданні славянскай літаратуры.

Дырэктар выдавецтва Максім Ходак адзначае, што не чакаў такой цікавасці да кнігі. Напрыклад, на сайце выдавецтва, дзе арганізавалі розыгрыш некалькіх асобнікаў, за пару гадзінаў запісалася 659 ахвотных прачытаць яе!

"У Еўропе ёсць вялікая цікавасць да гісторыі Другой сусветнай вайны. Але, на жаль, людзі мала ведаюць пра яе, а многія ўвогуле лічаць, што тую вайну выйграла Амерыка. Ёсць вялікая цікавасць і да Беларусі, але, на жаль, і пра вашу краіну, і пра беларускую літаратуру ведаюць мала. Наша выдавецтва мае намер і надалей выдаваць кнігі найлепшых беларускіх аўтараў, як сучасных, так і тых, каго ўжо можна залічыць да класікаў".

Чытачы з Беларусі, якія захочуць набыць кнігу, могуць зрабіць гэта праз сайт amazon.com. Тамсама варта пакідаць чытацкія рэцэнзіі: яны дапамогуць англамоўным чытачам.

*budzma.org*

# БЕЛАРУСЫ МАСКВЫ ЎЗЯЛІ ЎДЗЕЛ У КУПАЛЬСКІМ КАНЦЭРЦЕ



У Маскве на тэрыторыі музея-сядзібы "Кузьмінкі" 23 чэрвеня прайшоў традыцыйны святочны купальскі канцэрт. Мерапрыемства адбылося пры падтрымцы ўрада Масквы.

Перад гледачамі выступіў заслужаны калектыў "Гасцінец" з Валожынскага раёна.

Канцэрт адбыўся побач з маляўнічым возерам на фоне велічнага архітэктурнага помніка — канюшняў князёў Галіцыных. Вечар завяршыўся пусканнем вянкоў на ваду і феерверкам.

Купальскія канцэрты ладзяцца ў Кузьмінках штогод, і гэта далёка не першы раз, калі ў іх бяруць удзел ансамблі з Беларусі, і сёлета святкаванне старажытнага свята цалкам прайшло ў беларускім духу.

*Паводле nn.by*

# КУПАЛЬСКАЯ НОЧ НА БЕРАЗЕ АНГАРЫ

17 гадоў запар Рэгіянальная грамадская арганізацыя “Іркуцкае таварыства Беларускай культуры імя Я.Д. Чэрскага” (ІТБК) ладзіць у самую кароткую ноч свята Купалле.

У гэтым годзе традыцыйная дата правядзення – ноч з 23 на 24 чэрвеня – супала па календары з суботай і нядзеляй, таму было асабліва прыемна правесці гэтую ноч згодна з традыцыямі, ды яшчэ і ў выходныя.

Купалле ўжо зрабілася брэндавым святам ІТБК. На яго прыязджаюць людзі розных нацыянальнасцяў і розных узростаў. Гэты год не быў выключэннем. Самай маленькай беларусачцы Лізе з роду Кулікова было ўсяго 5 гадоў, а яна як сапраўдны знаўца ўсіх абрадавых дзеянняў брала ўдзел ва ўсім і пратрымалася да раніцы.

Варта сказаць, што дзяцей у гэтым годзе было шмат. Ды гэта і зразумела, бо за 17 гадоў вырасла ўжо цэлае пакаленне. І бацькі маленькіх дзяцей, памятаючы свае ўражанні ад першых купальскіх начэй, безумоўна, захацелі ўзяць з сабой сваіх малых. Праўда, не ўсе, як 5-гадовая Ліза або 9-гадовая Соня ды 11-гадовая Эліна пратрымаліся без сну ўсю ноч. Некаторыя адправіліся спаць – хто ў машыну, хто ў намёт.

Але вось дарослая частка ўдзельнікаў купальскага свята не толькі пратрымалася да раніцы, але яшчэ і дзівілася, чаму ноч так хутка прайшла.

Наогул сёлета было шмат моладзі, хоць людзей за сорак таксама хапала. Усяго па сціплых падліках народу сабралася больш за 250 чалавек. Большасць – “купальшчыкі” са стажам, але былі і навічкі. Але, з'язджаючы з берага ракі Ангара, усе ў адзін голас паўтаралі: “Свята атрымалася! Было весела, прыгожа, інтэрактыўна!”

Купалле падводзіць пэўную рысу і аб'ядноўвае ў сабе ўсе культы Прыроды. Культ Агню, Вады, Расліннага свету, Кахання і Любові, Пачатку ўсяго Жывога – усё гэта знайшло сваё адлюстраванне ў святце Купалля. З Купаллем звязана шмат павер'яў і абрадаў.

А пачынаецца свята з таго, што дзяўчаты і жанчыны па прыездзе на паляну збіраюць кветкі сабе на вяночкі, прысаджваюцца ў кола і пад пэўныя рытуальныя старадаўнія песні ўсе разам вырабляюць цудоўныя кветкавыя шэдэўры. Калі дзяўчаты плятуць вянкі, седзячы ў коле, ды яшчэ пад песні, то гэтыя вянкі набіраюць магічную сілу, а з іншага боку дзяўчаты, дапамагаючы адна адной, вучаць гэтаму мастацтву маладзейшых. Зноў жа пад песні вясялей ідзе праца.

Другім найважнейшым момантам пачатку абраду з'яўляецца запальванне шляхам высякання іскры рытуальнага Агню, які павінен гарэць усю Купальскую ноч. Лічыцца, што такі Агонь падтрымлівае сілу Сонца. Гэтую задачу павінен выканаць князь Купаліш у асяроддзі сваёй дружыны. Прычым дзяўчатам нават “падглядаць” забаронена. У гэтым годзе іскру высеклі амаль адразу.

А далей пачынаюцца “цуды” Купальскай ночы: традыцыйныя карагоды, пошук чароўнай Папарацькветкі, скокі праз Святы Агонь, які ачышчае, пошукі Купалінкі, лячэбны Звар, праводзіны русалак, варажба на вянках, абрад купання ў гаючай Вадзе, традыцыйныя беларускія гульні і танцы.

І ўсім гэтым дзеянням адведзены свой час, і па ходзе падзеяў тлумачыцца, што і калі трэба рабіць. Адным словам, не пераблытаеш, калі Купалінку выручаць, а калі Папараць шукаць.

А напрыканцы я хачу падзякаваць усім, хто быў у актыве і дапамог арганізаваць гэтае свята: сябрам клуба “Вольнае племя”, якія паехалі з раніцы і падрыхтавалі вогнішча, прывезлі сталы і лаўкі, а таксама ноччу арганізавалі блок “Нячысцікаў” з прыгожым фаер-шоў і цікавымі спаборніцтвамі. Дзякую дзяўчатам з нашых фольк-груп “Крывічы” і “Ленушка”, якія спявалі ўсю ноч беларускія абрадавыя песні (усяго больш за 40 песень). Дзякуй нашым дзяўчатам “Русалкам”, з'яўленне якіх у 4 гадзіны ночы асвяжыла народ. Таксама дзякую сябрам клуба “Иркут-Север” і ўсім, хто падвозіў, забіраў, агучваў, спяваў, танцаваў, хадзіў у карагодах.

Адным словам я дзякую вам, дарагія сябры, за вашу актыўнасць!

Свята сапраўды атрымалася добрым! Прыходзьце да нас яшчэ. Нашы дзверы адчыненыя для ўсіх!

*Паводле Алега Рудакова*

# БЕЛАРУСЫ АДСВЯТКАВАЛІ КУПАЛЛЕ Ў ЛОНДАНЕ

23 чэрвеня беларуская грамада Вялікабрытаніі адзначыла адно з найстаражытнейшых народных святаў – Купалле. Разам з тым, Купалле – адно з маладых святаў беларускай дыяспары на Туманным Альбіёне. Брытанскія беларусы пачалі актыўна адзначаць яго з канца 1990-х. “Усё пачыналася яшчэ пры ўдзеле легендарных брытанцаў і вялікіх прыяцеляў Беларусі Веры Рыч і Гая Пікарыды”, – распавёў TUT.BY адзін з ініцыятараў святкавання Павел Шаўцоў.

Этнаграфічна-фальклорную афарбоўку святкаванне набыло дзякуючы Караліне Мацкевіч – адной з завадатарак цяперашняй беларускай грамады. Усяго за некалькі гадоў Купалле стала самым папулярным святам сярод беларусаў Вялікабрытаніі, што збірае нашых суайчыннікаў ды сяброў Беларусі ў лонданскім раёне Паўночны Фінчлі.



Паноўная беларуская мова, нацыянальныя строі, вянкі з красак – у купальскую ноч сад сядзібы Беларускага рэлігійнага і культурнага цэнтра імя Св. Кірылы Тураўскага нібыта перанёс прысутных на радзіму.

Цэнтральным месцам абрадавага святкавання стала вогнішча – увасабленне сонца і ўраджаю, як лічылі нашы продкі. Вакол агню вадзілі карагоды, спявалі традыцыйныя купальскія песні, скакалі праз вогнішча ды палілі пудзіла і купальскае кола.

Кожны ахвочы мог узяць урок беларускіх традыцыйных танцаў і далучыцца да аўтэнтычных спеваў. Дзяцей чакала актыўная праграма з традыцыйных беларускіх гульняў. Фотавыстава Сашы Белавокай прадставіла летапіс папярэдніх святкаванняў Купалля ў Лондане.

Гучала ў гэты вечар і паэзія Веры Рыч – брытанскай перакладчыцы, якая адкрыла англамоўнаму свету беларускую літаратуру.

Паводле старадаўняй традыцыі, купальская ноч у Лондане скончылася пусканнем вогненных вянкоў па вадзе.

*nv-online.info*

# СЯРЖУК ВІТУШКА (1965-2012)



У віленскай лякарні 2 ліпеня памёр кіраўнік легендарнай мінскай "Талакі" — адной з першых паўпадпольных незалежных арганізацый у часы СССР Сяржук Вітушка.

За два тыдні да таго ў яго здарыўся інфаркт.

Апошнія дні ён правёў у цяжкім стане і памёр на руках у жонкі Людвікі, якая апекаваліся ім доўгія гады ягонай слабасці.

Ён доўга цяжка хварэў на дыябет, страціў зрок і нагу. Аслепнуўшы, вучыўся друкаваць на камп'ютары ўсляпую, складаючы вершы.

Сяржук Вітушка нарадзіўся ў 1965 годзе ў мястэчку Чысць Маладзечанскага р-на. Скончыў гістфак БДУ. Шмат пісаў на тэмы маладзёвага руху, аховы помнікаў, краязнаўства. З 1991 года жыў у Вільні, працаваў у беларускай школе, на радыё і тэлебачанні.

Страціўшы зрок, ён усё ж не спыніў актыўнае дзейнасці, у прыватнасці, арганізоўваў "сляпыя экскурсіі" для беларусаў па старажытнай сталіцы ВКЛ, працягваў шмат пісаць, у тым ліку дзіцячыя казкі і п'есы-батлейкі.

У 2011 годзе выйшла яго кніга "Дзіньдзілінь: пара гуляць у казкі!". Радыё "Рацыя" зафундавала кампакт-дыск на яе аснове, прэзентацыя якога ў Мінску стала апошняй імпрэзай з яго ўдзелам.

Адышоў у вечнасць вялікі чалавек беларускай нацыі.

Светлая памяць!

*Паводле nn.by*

# ВЕРА ВЯРБА (1942-2012)



13 ліпеня не стала аўтаркі легендарных "Ручнікоў" – Веры Вярбе было 70 гадоў. Яе знайшоў сын на лецішчы.

Сапраўднае імя Веры Вярбы — Гертруда Маркава. Яна нарадзілася 14 студзеня 1942 года ў вёсцы Высокі Гарадзец Талачынскага раёна. Дэбютавала рамантычным зборнікам "Вочы вясны" ў 20 гадоў.

Гэтая, па словах Адама Глобуса, эфектная жанчына доўгі час адпрацавала ў часопісе "Беларусь". Яна не "мільгала" ў свецкай хроніцы, але пакінула пасля сябе цудоўныя вершы.

Паэтка, якой у сталыя гады не тварылася, застанецца ў памяці маладымі вершамі.

*Наперакор не толькі лёсу*
*Нясу высока галаву.*
*Мой смех на зорах і на плёсах;*
*Такая ж, юная, жыву.*

*І некаму мне крыўду скласці,*
*І некалі прыняць дакор.*
*Жыву і прычакаю шчасця*
*Усім чарцям наперакор.*

Пахавалі Веру Вярбу на могілках у Калодзішчах.

Рай светлы яе душы!

*Паводле nn.by*

## БЕЛАРУСКІ КАЛЯНДАР ПАМЯТНЫХ ДАТ НА ЖНІВЕНЬ 2012 ГОДА

1 жніўня – 100 гадоў таму, у 1912-м, нарадзіўся Янка Ролсан (сапр. Гадзіцкі; в. Вялень, цяпер Пухавіцкі р-н), грамадска-культурны дзеяч, паэт, дзеяч эміграцыі ў Аўстраліі.

4 жніўня – 95 гадоў таму, у 1917-м, нарадзіўся Янка Брыль (г. Адэса, цяпер Украіна), народны пісьменнік Беларусі.

5 жніўня – 240 гадоў таму, у 1772-м, прынятая Пецярбургская канвенцыя, паводле якой адбыўся першы тэрытарыяльны падзел Рэчы Паспалітай.

6 жніўня – 135 гадоў таму, у 1877-м, памёр Іван Насовіч, мовазнавец-лексікограф, фалькларыст, этнограф. Пахаваны на могілках Тупічэўскага манастыра (Мсціслаў).

8 жніўня – 35 гадоў таму, у 1977-м, у Парыжы памёр Леў Гарошка, асветнік, уніяцкі рэлігійны дзеяч, гісторык, выдавец, пісьменнік, культуролаг, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне, Францыі, Вялікабрытаніі і Ватыкане. Пахаваны на могілках Сен-Панкрац у Лондане.

10 жніўня – 225 гадоў таму, у 1787-м, нарадзіўся Ігнат Даніловіч (в. Грынявічы, цяпер Бельскі пав. Падляшскага ваяв., Польшча), даследчык гісторыі права Вялікага Княства Літоўскага.

12 жніўня – 135 гадоў таму, у 1877-м, нарадзіўся Тодар (Хведар) Данілюк (в. Сурынка, цяпер Слонімскі р-н), рэлігійны і вайсковы дзеяч, удзельнік Слуцкага паўстання, адзін са стваральнікаў Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай царквы, які з 1950 г. жыў у ЗША.

12 жніўня – 20 гадоў таму, у 1992-м, памёр Юрка Луцкевіч, вайсковец, настаўнік, сябар Беларускай Незалежніцкай Партыі, вязень савецкіх канцлагераў. Пахаваны ў Вільні.

18 жніўня – 85 гадоў таму, у 1927-м, у Вільні выйшаў першы нумар газеты "Народ" (выдавалася да ліпеня 1929 г.).

23 жніўня – 65 гадоў таму, у 1847-м, у Друскеніках (цяпер Літва) памёр Ян Чачот, асветнік, паэт, фалькларыст, філамат. Пахаваны ў Ротніцы паблізу Друскенікаў.

23 жніўня – 95 гадоў таму, у 1917-м, у Таліне (Эстонія) нарадзіўся Пімен Панчанка, народны паэт Беларусі.

23 жніўня – 25 гадоў таму, у 1987-м, памёр Міхась Стральцоў, пісьменнік, крытык, перакладчык. Пахаваны на Паўночных могілках у Мінску.

**Беларусы ў свеце**
№7(123), ліпень 2012

Інфармацыйны бюлетэнь МГА "ЗБС "Бацькаўшчына". Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.

Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі. Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – А. Башарымава. Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А Макоўская. Наклад 250 асобнікаў

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31, офіс 906,
г. Мінск 220012, Рэспубліка Беларусь
www.zbsb.org
zbsb@tut.by

тэл./факс (+375 17) 200-70-27